# БАЦЬКАЎШЧЫНА

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 39 (269) — Нядзеля 25 верасьня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Візыта канцлера Адэнаўэра ў Маскве

Паездка канцлера заходнянямецкай фэдэральнай рэспублікі др. Адэнаўэра ў Маскву была ня меншай палітычнай сэнсацыяй, чымся нядаўнае поломніцтва савецкіх верхаводаў да Ціты ў Белград. Той Адэнаўэр, якога яшчэ нядаўна савецкія дзяржаўныя мужы зьнеważалі паводля савецкага стылю абразьлівымі словамі, называючы яго агентам і выслужнікам амэрыканскага імпэрыялізму, цяпер быў імі-ж запрошаны на перагаворы й прыняты з найвялікшай пашанай. З другога боку, запросіны Адэнаўэра ў Маскву былі савецкай спробай вырваць Заходнюю Нямеччыну зь сям'і заходніх народаў і выстаўленьнем на пробу самога канцлера Адэнаўэра ў ягоных забавязаньнях перад Захадам. Дык і ня дзіва, што цэлы палітычны сьвет з напружанай увагай сачыў за перагаворамі ў Маскве, якія пачаліся 9 верасьня, а кончыліся 13 верасьня сёлета.

Афіцыяльнай мэтай запросінаў Адэнаўэра ў Маскву Крэмль паставіў навязаньне дыпляматычных, гандлёвых і культурных дачыненьняў між Савецкім Саюзам і Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікай. Гэтым самым ён выказаў гатоўнасьць вызнаць Нямецкую Фэдэральную Рэспубліку дэ юрэ без дамаганьня ў замен такога-ж вызнаньня г. зв. Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі Заходняй Нямеччынай. Але канцлер Адэнаўэр яшчэ перад своей паездкай дамогся, што будуць таксама парушаныя ў Маскве справы павароту нямецкіх ваеннапалонных і пытаньне задзіночаньня Нямеччыны, як неадлучныя ад пытаньня нармалізацыі ўзаемадачыненьняў.

Ужо ў першым дні нарадаў савецкі прэм'ер Булганін станоўча заявіў, што ня можа быць і мовы аб задзіночаньні Нямеччыны, паколькі Нямецкая Фэдэральная Рэспубліка парыскімі дагаворамі зьвязалася ў вайсковых справах з заходнімі дзяржавамі. Што-ж датычыцца нямецкіх ваеннапалонных, дык Булганін заявіў, што гэтая справа ў роўнай меры датычыць і Ўсходняй Нямеччыны, а таму ў перагаворах у гэтай справе павінны таксама прыняць удзел і прадстаўнікі Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі.

У перарывах між нарадамі адбываліся ў чэсьць нямецкай дэлегацыі гучныя банкеты ў Крэмлі, на якіх савецкія кіраўнікі ня скупіліся слоўнымі запэўненьнямі аб сваей прыязьні да нямецкага народу. Аднак на працягу першых чатырох дзён атмасфэра нарадаў была цяжкая й напружаная, а абодвы бакі не шкадавалі ўзаемных абвінавачваньняў. Трэба падчыркнуць, што сваім захаваньнем канцлер Адэнаўэр паказаў поўную дастойнасьць і годнасьць. Гэтак калі Хрушчоў у сваей прамове абвінавачваў Немцаў у іхных праступках над насельніцтвам Савецкага Саюзу падчас вайны, Адэнаўэр адказаў, што ня меншыя праступкі рабілі й бальшавікі над нямецкім насельніцтвам, калі ўвайшлі на тэрыторыю Нямеччыны. Некаторыя назіральнікі ўжо лічыліся з тым, што гутаркі скончацца ў пустую.

Тымчасам апошні дзень нарадаў прынёс раптоўны зварот і яны скончыліся ўзаемным кампрамісам. Вынікі перагавораў былі наступныя:

1. Савецкі Саюз і Нямецкая Фэдэральная Рэспубліка пастанавілі навязаць дыпляматычныя дачыненьні і для гэтай мэты абмяняцца надзвычайнымі ўпоўнамочанымі прадстаўнікамі.

2. Савецкі Саюз запэўніў заходнянямецкага канцлера зволькіць усіх нямецкіх ваеннапалонных, засуджаных у Савецкім Саюзе. Тут трэба адцеміць, што паводля заявы Булганіна, гэтых нямецкіх ваеннапалонных ёсьць у Савецкім Саюзе 9.626 чалавек, тады як згодна дадзеных Міжнароднага Чырвонага Крыжа і асьветчаньня самога канцлера Адэнаўэра, іх ёсьць там звыш 100.000. У гэтым ліку ня толькі былыя нямецкія жаўнеры, але й дэпартаваныя цывільныя Немцы.

3. Канцлер Адэнаўэр у пісьме да Булганіна падаў дзьве перадумовы для навязаньня дыпляматычных узаемадачыненьняў з Савецкім Саюзам: а) устанаўленьне дыпляматычных дачыненьняў не зьяўляецца прызнаньнем дасюлешняга тэрытарыяльнага стану. Канчальнае ўстанаўленьне граніцаў Нямеччыны астаецца да вырашэньня будучага мірнага дагавору. б) Навязаньне дыпляматычных дачыненьняў не парушае права Заходняй Нямеччыны выступаць у справах цэлае Нямеччыны. Ужо пасьля заканчэньня перагавораў, 15 верасьня вечарам ТАСС ад імя савецкага ўраду заявіў, што апошні ня прыймае гэтых перадумоваў, цьвердзячы, што граніцы Нямеччыны канчальна былі ўстаноўленыя на Потсдамскай канфэрэнцыі ў 1945 годзе і што Заходняя Нямеччына можа ажыцьцяўляць сваю юрысдыкцыю толькі на тэй тэрыторыі, якая знаходзіцца пад ейным сувэрэнітэтам.

4. Абодвы бакі згадзіліся, што ў бліжэйшым часе адбудуцца паміж Савецкім Саюзам і Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікай перагаворы дзеля разьвіцьця ўзаемнага гандлю.

Вынікі маскоўскай канфэрэнцыі ацэньваюцца на Захадзе парознаму. Рэакцыя ўрадавых колаў Захаду ў васнаўным паўстрыманая. Часьць заходняй прэсы выказвае пагляд, што маскоўская канфэрэнцыя прынесла сукцэс Саветам і няўдачу для Заходняй Нямеччыны й Захаду, іншая-ж часьць выказваецца, што вынікі канфэрэнцыі былі перамогаю канцлера Адэнаўэра.

Незалежна ад таго, як ацэньваць вынікі маскоўскіх перагавораў, адно астаецца ясным: канцлер Адэнаўэр паступіў так, як у ягоным палажэньні мог паступіць. Няма сумлеву, што калі-б ён не патрабаваў лічыцца з голасам нямецкай публічнай апініі і сваёй апазыцыяй, то не згадзіўся-б на навязаньне з Саветамі дыпляматычных дачыненьняў за цану зваьненьня няпоўных дзесяці тысяч нямецкіх ваеннапалонных, калі, як успаміналася, іх там мусіць быць ня менш ста тысяч. Згаджаючыся на гэта, канцлер Адэнаўэр заявіў у Маскве, што ён і надалей астанецца верным сваім забавязаньням перад Захадам, а вярнуўшыся ў Бонн афіцыяльна асьветчыў, што нармалізацыя ўзаемадачыненьняў з Саветамі не абазначае яшчэ зьмены курсу заходнянямецкай палітыкі. Гэтымі сваімі заявамі канцлер паказаў, што Заходняя Нямеччына будзе і надалей весьці незалежную ад якіх-небудзь вонкавых уплываў палітыку.

Калі-ж глядзець на справу з пэрспэктывы на будучыню, дык, на нашую думку, нармалізацыя ўзаемадачыненьняў з Савецкім Саюзам трэба разглядаць скарэй за ўсё пэсымістычна. Маскоўскія гутаркі і навязаньне ўзаемадачыненьняў з Савецкім Саюзам гэта толькі пачатак. Гэтым Масква, пэўне-ж, не задаволіцца і будзе далей весьці ігру за Нямеччыну. А ў ігры гэтай Масква мае вялікі козыр. Гэта тое, што пад ейнай уладай знаходзіцца Ўсходняя Нямеччына з васемнаццацю мільёнамі Немцаў.

**Янка Канцавы**

# Заява Старшыні Амэрыканскага Камітэту

**Старшыня Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму сп. Г. Г. Сарджэнт, у сувязі з апошнімі савецкімі мерапрыемствамі заманіць да сябе палітычных эмігрантаў з Савецкага Саюзу і там іх зьнішчыць, абвесьціў 20 верасьня сёлета наступную заяву:**

«Свайго роду „ганебную ўзнагароду“ трэба было-б прызнаць прэм'еру Булганіну за беспрынцыповае хвальшаваньне ў ягонай заяве, абвешчанай на заканчэньне гутарак з канцлерам Адэнаўэрам, пра ўцекачоў з пад савецкай тыраніі, якія знайшлі азыль у Заходняй Нямеччыне. Гэтыя мужчыны й жанчыны, якіх Булганін налічвае да 100.000, гэта проста палітычныя ўцекачы з СССР. Падобна як тысячы ўцекачоў з чырвоных сатэлітных краінаў, яны выбралі свабоду, часта рызыкуючы жыцьцём і будучы заўсёды пад загрозай крэмлёўскіх людаловаў і выкрадальнікаў.

Гэтыя ўцекачы — гэта частка якіх паўмільёна савецкіх грамадзян, што ў канцы вайны адмовіліся ад павароту да сваіх бацькаўшчын — пад камуністычнае ярмо, і цяпер перабываюць расьцярушаныя ў цэлым вольным сьвеце. Між імі ёсьць шмат жаўнераў і ахвіцэраў чырвонай арміі, якія ўцяклі з савецкіх акупацыйных аддзелаў у Ўсходняй Нямеччыне.

І цяпер Булганін зь нячуванаю бессаромнасьцю робіць абвінавачаньні, што гэтыя палітычныя ўцекачы зьяўляюцца «затрыманымі супраць іхнай волі і сілком адарваныя ад іхных бацькаўшчынаў». Увесь сьвет ведае, што гэта ёсьць уніканьне праўды, і то на шырокую скалю. Рэдка калі таталітарная тэхніка «вялікай брахні» была прытарнаваная гэтак ачавідна.

У чарговым паходзе савецкі ўрад абвесьціў амнэстыю для савецкіх грамадзян на Захадзе, якія пакінулі СССР падчас другой сусьветнай вайны, з мэтай заахвоціць іх да павароту ў Савецкі Саюз. Гэта ёсьць публічнае прызнаньне аб тым, што ягоныя грамадзяне, якія ўцяклі, заўсёды могуць свабодна вярнуцца, а абвешчаньне амнэстыі — гэта толькі яшчэ адзін трык іх інтэнсыўнай кампаніі заманіць пры дапамозе абяцанак і пагрозаў тых, што прадзерліся цераз зялезную заслону. І толькі вельмі нязначная частка іх пайшла на прынаду. Той ачавідны факт, што ягоны ўрад просіць уцекачоў вяртацца дамоў пры помачы якраз заснаванага ў усходнім Бэрліне «Камітэту для павароту на бацькаўшчыну» і амнэстыя, абвешчаная ў канцы гэтага тыдня, выяўляюць хвальшывасьць прэтэнсіяў Булганіна, што быццам іх трымаюць на Захадзе сілай.

Індывідуальна і ў палітычных арганізацыях вялікая колькасьць савецкіх уцекачоў актыўна змагаецца з камунізмам і заахвочвае свае народы змагацца за свабоду іхных бацькаўшчынаў. Яны выбралі свабоду ў запраўднасьці па тое, каб магчы працаваць для вызваленьня сваіх суродзічаў. Іхная патрыятычная самаадданасьць выходзіць з традыцыі вялікіх змагароў за свабоду іхных краінаў на працягу многіх пакаленьняў.

Як-жа Булганін выясьняе гэты для ягонага ўраду клапатлівы й застрашваючы факт? Ён мае адвагу гаварыць пра гэтых патрыётаў як пра савецкіх грамадзян, што дрэнна сябе вялі, як грамадзяне сваіх краёў.

У іншым месцы савецкі прэм'ер кажа: «Некаторыя арганізацыі, варожыя да Савецкага Саюзу і паддзержываныя адказнымі ўладамі, вядуць ганебную прапаганду супраць рэпатрыяцыі». Арганізацыі, якія ачавідна гэтак яго непакояць — мы з гордасьцю да гэтага прызнаёмся — уключаюць таксама «Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму». Гэта наш Камітэт, заснаваны прыватнымі грамадзянамі з мэтаю даваць маральную й матарыяльную дапамогу савецкім эмігрантам і іх змаганьню супраць крэмлёўскай дыктатуры. Пры дапамозе радыя «Вызваленьня» і іншым спосабам Амэрыканскі Камітэт умагчыміў савецкім уцекачом перадаваць іхным народам на бацькаўшчыне пасланьні волі й надзеі на канчальнае вызваленьне.

Асноўная мэта Булганінавай ілжы ёсьць ачавідная. Масква зьбянтэжаная сканцэнтраванай увагай цэлага сьвету з прычыны нялюдзкага, незаконнага і нецывілізаванага насільнага задзержываньня на працягу дзесяці год пасьля заканчэньня вайны вялізарнай колькасьці нямецкіх палонных. Савецкі ўрад разумее, што насільнае захапленьне, якое прадаўжаецца й да сяньня, былых савецкіх грамадзян савецкімі агентамі, ператварае на нішто ўсе прэтэнсіі савецкага ўраду, што быццам намагаецца перабудаваць сваю палітыку ў «жэнэўскім духу». Такім чынам, абвінавачваючы вольны сьвет у сваіх собскіх злачынствах, Савецкі Саюз намагаецца зацерці страшны абраз сваіх собскіх жахлівых дзеяў.

Булганін мае яшчэ адзін нячэсны матыў: ён намагаецца настрашыць і застрашыць эмігрантаў з СССР і іх палітычныя арганізацыі, што працуюць у інтарэсах іх народаў за зялезнай заслонай. Ён хоча змусіць іх паверыць у магчымасьць таго, што вольныя краіны могуць адмовіць ім у праве азылю. У сваей акцыі для павялічэньня ціску на ўцекачоў ён выкарыстаў адведзіны Адэнаўэра.

На шчасьце, уцекачом з Савецкага Саюзу добра ведамыя ўсе хітрыя мэтады сваіх калішніх уладароў. Мэта апошніх двух крокаў савецкага ўраду для іх цалком ясная. Але ні эміграцыю, ні іхных прыяцеляў у вольным сьвеце ня ўдасца застрашыць. Наадварот, заява Булганіна, якая так супярэчыць гуманнасьці й здароваму розуму, і савецкая амнэстыя, якая прыйшла ўсьлед за гэтай заявай, надаюць гістарычнаму змаганьню за вызваленьне народаў СССР новы сэнс і штуршок.

24 жніўня ў Філядэльфіі, у сваей прамове, прэзыдэнт Айзэнгаўэр асьветчыў, што амэрыканскі ўрад ня пойдзе на кампраміс што да асноўных прынцыпаў справядлівасьці й свабоды. Віцэпрэзыдэнт Ніксон і дзяржаўны сакратар Дальлес поўнасьцю прылучыліся да выказваньняў прэзыдэнта. Права на палітычны прытулак ёсьць адным із жыцьцёвых прынцыпаў, якім цьвёрда кіруюцца таксама канцлер Адэнаўэр і ягоны ўрад.

### АД РЭДАКЦЫІ

**Наступны нумар «Бацькаўшчыны» выйдзе падвойным за 2/9 кастрычніка сёлета й будзе зьмяшчаць у сабе вялікі літаратурны дадатак.**

# Савецкая амнэстыя для эмігрантаў

Газэта «Известия» і ТАСС 18 верасьня сёлета абвесьцілі загад прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР за подпісам ягонага старшыні К. Варашылава аб амнэстыі савецкім грамадзянам і палітычным эмігрантам з Савецкага Саюзу, якія супрацоўнічылі з акупантам падчас вайны 1941—1945 г. г. Ніжэй прыводзім важнейшыя пастановы гэтага закону:

«1. Зволькіць ізь месцаў зьняволеньня і іншых мераў пакараньня асобаў, засуджаных на тэрмін да 10 год пазбаўленьня волі ўключна за дакананую ў пэрыяд вялікай айчыннай вайны у 1941—1945 г. г. дапамогу ворагу й іншыя праступкі...»

«2. Скараціць на палавіну назначанае судом пакараньне засуджаным на тэрмін звыш 10 год за праступкі, пералічаныя ў першым парграфе гэтага загаду».

«3. Зволькіць зь месцаў зьняволеньня незалежна ад тэрміну пакараньня асобаў, засуджаных за службу ў нямецкай арміі, паліцыі й спэцыяльных нямецкіх фармацыях».

«4. Зволькіць ад адказнасьці і тых савецкіх грамадзян, што цяпер знаходзяцца заграніцай, якія ў пэрыяд... вайны... займалі кіраўнічыя становішчы ў створаных акупантам ворганах паліцыі, жандармэрыі і прапаганды, у тым ліку ўцягнутых у антысавецкія арганізацыі ў пасьляваенны пэрыяд, калі яны адкупілі сваю віну пазьнейшай патрыятычнай дзейнасьцяй на карысьць бацькаўшчыны або зьявіліся з пакаяньнем».

«Згодна зь дзеючым законадаўствам разглядаць як зьмякшаючую віну акалічнасьць зьяўленьня з пакаяньнем савецкіх грамадзян, што знаходзяцца заграніцай, якія ў працягу... вайны... зрабілі цяжкія праступкі супраць савецкай дзяржавы. Устанавіць, што ў гэтых выпадках пакараньне назначанае судом, не павінна перавышаць 5 год высылкі».

Матывы, што быццам сьхілілі савецкі ўрад абвесьціць гэтую амнэстыю, наступныя: тое, што пасьля вайны «савецкі народ дабіўся новых вялікіх пасьпехаў ува ўсіх галінах гаспадарскага й культурнага будаўніцтва і далейшага ўмацаваньня сваей сацыялістычнай дзяржавы», а так-жа «спыненьне стану вайны між Савецкім Саюзам і Нямеччынай» ды **«прынцып** гуманнасьці» (падч. намі — Рэд.).

Адкладаючы падробную інтэрпрэтацыю гэтага савецкага закону аб амнэстыі да наступнага нумару нашае газэты, тут толькі зацемім, што гэтая амнэстыя ёсьць ня чым іншым, як чарговай пасткай, хітра застаўленай на палітычных эмігрантаў з Савецкага Саюзу. Мы перакананыя, што эмігранты на собскай скуры вельмі добра пазналі ўсе «дабрадзействы» савецкіх законаў, запэўненьняў і абяцанак, каб хто-небудзь зь іх у гэтую пастку адважыўся палезьці.

# Прэсканфэрэнцыя Амэрыканскага Камітэту

У сувязі з абвешчаньнем прэзыдыюмам Вярхоўнага Савету СССР амнэстыі для палітычных эміграцыяў з Савецкага Саюзу, эўрапэйскі аддзел Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму склікаў 20 верасьня сёлета ў Мюнхэне прэсавую канфэрэнцыю, на якой прадстаўнікі Амэрыканскага Камітэту перад прадстаўнікамі эміграцыяў і нямецкае прэсы выясьнілі запраўдную сутнасьць амнэстыі й запэўнілі, што Амэрыканскі Камітэт, у сувязі з гэтым, будзе яшчэ болей падтрымліваць вызвольныя імкненьні паняволеных бальшавізмам народаў і даваць іхным эміграцыям яшчэ большую маральную й матарыяльную помач у іхнай антыбальшавіцкай дзейнасьці.

Рэфэрэнт Амэрыканскага Камітэту ў справах эмігрантаў **сп. І. Пэч,** які вёў канфэрэнцыю, прыпомніў, што апошняя амнэстыя ёсьць з чаргі восьмай савецкай амнэстыяй і другой амнэстыяй для палітычных эмігрантаў. Першая такая амнэстыя была абвешчаная ў 1924 годзе й дароўвала віны эмігрантам, што змагаліся супраць бальшавізму ў радох белай гвардыі. Увесь хвальш і абман гэтае амнэстыі раскрывала тайная інструкцыя ГПУ Савецкай Беларусі, выдадзеная ўжо пасьля амнэстыі — у 1925 годзе, у якой гаварылася, як пастунаць з эмігрантамі, што вернуцца на тэрыторыю Савецкай Беларусі. Сп. Пэч зацытаваў наступныя пастановы гэтае інструкцыі:

**«...Трэба срога сачыць за ўсімі эмігрантамі й асобамі, якія знаходзяцца ў кантакце зь імі...» «... Сачэньне трэба праводзіць так, каб ня выклікаць ніякага падазрэньня ў васобы, за якой сочаць...» «...Дзеля таго, што нельга ўважаць тых, якія вернуцца з эміграцыі ў Савецкі Саюз, за людзей карысных і надзейных, іх трэба расстрэльваць...»**

Заступнік амэрыканскага дарадніка пры Інстытуце для Вывучэньня СССР **сп. Л. Барат** паведаміў, што ўсе папярэднія сем амнэстыяў для соцень тысяч людзей былі трагічнымі. Усіх звольненых і ўласкаўленых на падставе гэтых амнэстыяў потым ГПУ, за розныя іншыя беспадстаўныя абвінавачаньні, ліквідавала, навет у часы НЭП-у.

На запытаньне аднаго з журналістых, колькі эмігрантаў дабравольна вярнулася на заклік «Камітэту за паварот на бацькаўшчыну», сп. І. Пэч адказаў, што з Заходняй Нямеччыны й Аўстрыі дагэтуль вярнулася толькі шэсьць чалавек.

Напасьледак, дараднік Амэрыканскага Камітэту пры Інстытуце для Вывучэньня СССР **праф. О. Фрэдэрыксэн** паінфармаваў, што дзейнасьць Інстытуту над азнаямленьнем заходняга сьвету з Савецкім Саюзам знаходзіць на Захадзе поўнае прызнаньне і што вучоныя эмігранты, працуючы ў Інстытуце, праводзяць вялікую работу ў справе вызваленьня іхных народаў.

# Сіла нашае вызвольнае ідэі

**(Праявы незалежніцкіх рухаў у савецкіх канцэнтрацыйных лягерах)**

Падзеі апошніх часоў, зьвязаныя зь дзейнасьцяй на Захадзе шматнацыянальнае й шматтысячнае антыкамуністычнае эміграцыі, а таксама нядаўна запачаткаваны напорысты наступ бальшавіцкае прапаганды й тэрору супраць носьбітаў праўды аб савецкай тыраніі вельмі наглядна даводзяць аб сіле эміграцыяў, як фактару ў антыбальшавіцкім змаганьні. Стварэньне «Камітэту за паварот на бацькаўшчыну», ягоныя расейскі й беларускі прэсавыя органы, ягоныя-ж шматмоўныя радыяперадачы, нядаўнае Булганінава дамаганьне ад Адэнаўэра звароту ста тысяч «савецкіх грамадзян», ды ўрэшце чарговы трык — амнэстыя Прэзыдыюму Вярхсўнага Савету за супрацоўніцтва зь Немцамі, — красамоўна даводзяць, якім небясьпечным ворагам бальшавіцкае дыктатуры сталася праўда, прынесеная на Захад з паняволеных Масквою краёў і зь сібірскіх канцлягераў. Каб заглушыць гэтую праўду, Масква ставіць — і паставіць! — усё на карту. Пачынаецца пакульшто ад прапагандовае хлусьні, маральнага шантажу й рэтушаваных здымак. Аднак ня трэба быць наіўным і думаць, што арсэнал бальшавіцкага контрнаступу на гэтым вычарпаецца. Ведаючы Маскву, трэба быць падрыхтаванымі на ўсё зь ейнага боку, уключна з ганебнай тэрарыстычнай акцыяй, на што, зрэшты, ужо маем шматлікія довады.

☆

Змаганьне з бальшавізмам і расейскім імпэрыялізмам — рэч цяжкая й зацяжная. Яно патрабуе вытрывалась ці й вялікае веры ў перамогу. І таму ці раз нам даводзілася быць сьведкамі маральных заломаў у нашых шэрагах, калі паасобныя адзінкі ня вытрымоўвалі цяжару ўзятае на сябе адказнасьці. Аднэй з прычынаў такіх заломаў было тое што людзі ўгаворвалі сабе адзінцтва ў барацьбе й немагчымасьць перамогі. Натыкаючыся на закарэлы расейскі шавінізм на Ўсходзе й на Захадзе, некаторым з нас часам здаецца, што беларуская вызвольная ідэя зрэдукаваная да маштабу эміграцыі. Такую глебу насьцярожана намацваюць Расейцы ўсіх масьцяў і пакрояў, каб кідаць у яе намовы, пераконваньні й насьмешкі.

Вось-жа незалежніцкія рухі паняволеных Масквой народаў — гэта ня выдумка эміграцыяў ці нябожчыка Гітлера, а гэта рэальная сіла, запраўднасьць і гістарычная няўхільнасьць. Гэта зьявішча, якое зашмат сабой ахапіла, каб яго гіранізаваць. Аб гэтым ведае тав. Булганін і МВД. Аб гэтым мусім ведаць і мы. Бо незалежніцкія імкненьні народаў расейскае імпэрыі пагражаюць Маскве ня толькі з Захаду. Яны жывуць — яшчэ інтэнсыўней, бо ў жахлівых умовах — сярод іншае шматмільённае эміграцыі, у савецкіх канцлягерах, найбольш запэўненых і папаўняных коштам нерасейскіх народаў. Пэўна-ж, незалежніцкія пераканаваньні ня родзяцца ў канцэнтрацыйным лягеры. За праявы гэтых пераканаваньняў якраз высылаецца ў кацэт. Пераканаваньні гэтыя нуртуюць у самым народзе, у ягонай гушчы. Для нас — гэта не малаважны факт.

☆

Нядаўна ў Міляне пачалася 5 сэсія Кангрэсу Змаганьня за Свабоду Культуры з удзелам у ім больш за паўтары сотні выдатных прадстаўнікоў 32 заходніх дзяржаваў. Між цэлага шэрагу пытаньняў, сэсія мела разгледзець і пытаньне будучыні каляніяльных народаў, пасьля таго, як будуць зьнішчаны рэшткі аджылае каляніяльнае сыстэмы. У сувязі з гэтым да ведама ўдзельнікаў сэсіі быў пададзены вельмі цікавы мэмар'ял Немца д-ра Ёзэфа Шольмэра на тэму «Апазыцыя й супраціў у Савецкім Саюзе». Др. Ё. Шольмэр, больш чым трохгадовы вязень савецкага канцэнтрацыйнага лягеру, летась вярнуўся на Захад. Тут нядаўна выйшла ў сьвет ягоная сэнсацыйная кніга «Мерцьвякі варочаюцца назад», дзе ён апавядае аб жудасьцях савецкіх лягераў.

Сп. Шольмэр у сваім мэмарандуме зварочвае ўвагу ўдзельнікаў сэсіі на тое, што «разгадкі» савецкае рэчаіснасьці, якімі ўсё часьцей і часьцей займаюцца заходнія дасьледнікі, у сваёй бальшыні сьмеху вартыя, і што Саветы часта выкарыстоўваюць наіўных заходніх журналістых для заблытаньня праўдзівага вобразу савецкае рэчаіснасьці.

На ўступе др. Шольмэр кажа, што аб супрацівах паняволеных народаў могуць ведаць, з аднаго боку, органы МВД, а праз іх партыя й урад, а з другога боку — самі ўдзельнікі гэтага супраціву, вязьні канцэнтрацыйных лягераў. На аснове свайго дасьветчаньня на Варкуце, тыпічным савецкім лягеры, аўтар мэмарандуму прадстаўляе праўдзівы малюнак антысавецкага супраціву й вызвольных рухаў нерасейскіх народаў. Ніжэй падаём зьмест гэтага каштоўнага дакуманту, як довад аб паклёпах Расейцаў на патэнцыял незалежніцкае ідэі нерасейскіх народаў ды на замацаваньне веры ў нашую собскую сілу.

☆

Вязьні савецкіх лягераў, узятыя ў сваёй цэласьці, даюць дакладны малюнак нутранога супраціву ў СССР. А дзеля таго, што папаўненьне лягераў нова арыштаванымі ня спыняецца, і ў сярэднім час між арыштам і прыбыцьцём у лягер трэба лічыць шэсьць месяцаў, вязьні вельмі дакладна паінфармаваныя аб усіх палітычных падзеях, тым больш, што ў лягерах прадстаўлены ўсе пласты насельніцтва ад сялян аж да высокіх партыйных функцыянэраў. Згодна з аўтарытэтнымі падлікамі, у канцэнтрацыйных лягерах СССР сяньня налічваецца да 15 мільёнаў зьняволеных.

Шматлікія нелегальныя групы супраціву, у склад якіх уваходзіць і палітычная эліта лягераў на нацыянальным прынцыпе, вядуць у лягерах сваю дзейнасьць. Дзейнасьць групаў супраціву канцэнтруецца на палітычнай інфармацыі, а таксама ў сацыяльнай і вайсковай дзялянках. Пераважна дзякуючы гэтай працы, вязьні маюць правільнае ўяўленьне аб палітычных падзеях. Групы супраціву зьяўляюцца надзвычайна важным фактарам стабілізацыі маралі вязьняў. У сувязі з гэтым, выпадкі самагубстваў у лягерах вельмі рэдкія, ня гледзячы на цяжкія прысуды. Заходнія радыястанцыі слухаюцца вонках лягеру і тайна перадаюцца вязьням. Групы супраціву вядуць падрыўную дзейнасьць сярод аховы лягеру, частка якое ў выпадку канфліктаў, становіцца на бок паняволеных. На выпадак вайны вязьнямі пароблены ўсе магчымыя захады й падгатаваньні.

**Нацыянальная незалежнасьць займае першае месца ў праграме нерасейскіх групаў. Расейскія групы супраціву розьняцца ад іншых тым, што нацыянальнае незалежнасьці, як аднаго зь першых пастулятаў, у іхных праграмах няма. Характэрна аднак у лягерных умовах, што яны адмаўляюцца ад прэтэнзіяў Расейцаў панаваць над іншымі народамі і прызнаюць імкненьні апошніх да нацыянальнае незалежнасьці.** (Хай нам Бог даруе грэхі, але некаторых расейскіх эмігрантаў варта было-б паслаць туды на палітычнае й ідэялягічнае перашкаленьне...) У лягерах вязьні, у сваім штодзённым змаганьні супраць агульнага ворага, даўно ўжо выпрацавалі, ня гледзячы на розьніцу нацыянальных і сацыяльных пераканаваньняў, агульную плятформу супраць камунізму, якое, нажаль, не змаглі знайсьці эміграцыі гэтых народаў.

☆

Расейская апазыцыя ў сваёй бальшыні трымаецца прынцыпаў сацыялізму.

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

---

**ВЫЯСЬНЕНЬНЕ РЭДАКЦЫІ**

**Як мы даведаліся, некаторыя ўкраінскія колы пачуліся пакрыўджанымі зьмешчаным у папярэднім нумары нашае газэты артыкулам «Беларусы, украінскія імпэрыялістыя, варэнькікі й ячменная каша», уважаючы, што абвінавачаньні гэтага артыкулу скіраваныя пад адрасам Украінцаў наагул. У сувязі з гэтым выясьняем, што абвінавачаньні, як лягічна вынікае з самога артыкулу, скіраваныя пад адрасам украінскіх бандэраўскіх нацыяналістычных колаў, органам якіх і ёсьць «Гомін України», а ў ніякім выпадку супраць украінскіх дэмакратычных колаў і ўкраінскага народу ў цэласьці. Наадварот, з украінскімі дэмакратычнымі коламі й украінскім народам вяжуць нас глыбокія пачуцьці прыязьні, пашаны й супрацоўніцтва.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

---

# За падтрыманьне Беларусі й Украіны

На фоне коэкзыстэнцыйнага самаабману, у якім апынулася апошнім часам палітычная думка заходніх дзяржаваў, пазытыўна вырозьніваецца цьвярозы й прадбачлівы голас аднаго ўплывовага амэрыканскага дыпляматычнага карэспандэнта, зьбліжанага да ўрадавых колаў ЗША. Ёсьць ім даўгалетні дыпляматычны карэспандэнт перадавога амэрыканскага журналу «Ньюсвік» **Эдвард Вэйнтал.**

Вярнуўшыся з Эўропы, дзе ён прысутнічаў на Жэнэўскай канфэрэнцыі й часта гутарыў зь дзяржаўнымі мужамі эўрапэйскага кантынэнту, Вэйнтал у журнале «Ньюсвік» за 29 жніўня сёлета даў нарыс новага курсу амэрыканскай дыпляматыі, які, на ягоную думку, павінен хутка распачацца і будзе адказваць цяперашняй палітычнай сытуацыі. На ягоную думку, **«чыста абаронная вайсковая палітыка Атлянтычнага пакту павінна была-б уступіць месца больш агрэсыўнай праграме супраціву Расеі і яе адпіханьні на ўсход з тэрыторыі ўсходняэўрапэйскіх сатэлітаў».**

Далей ён піша:

**«Бліскучы пачатак быў зроблены ў гэтым кірунку прэзыдэнтам і дзяржаўным сакратаром у Жэнэве, і гэтая лінія думкі, бяз сумлеву, будзе прадаўжацца. Сур'ёзная амэрыканская ўвага мусіць быць зьвернутая на такія сьвядомыя кампанэнты Саветаў, як Украіна й Беларусь. ЗША ніколі належна ня выкарысталі факту, што гэтыя два народы маюць сваіх прадстаўнікоў у Задзіночаных Нацыях. Падтрыманьне іхнай незалежнасьці і змаганьня да дэцэнтралізацыі СССР на незалежныя, хоць неабавязкава няпрыязныя складовыя яго часьці, гатовае стацца аднэй з галоўных мэтаў палітыкі ЗША».**

На гэтым месцы варта прыпомніць, што хутка пасьля выбару Айзэнгаўэра за прэзыдэнта ЗША й перадвыбарнай кампаніі, што праходзіла пад лёзунгам палітыкі вызваленьня, рэспубліканскі кангрэсмэн із штату Вісконсін Лёрэнс Сміт 9 лютага 1953 году быў унёс у Палату Рэпрэзэнтантаў праект рэзалюцыі пра ўстанаўленьне дыпляматычных дачыненьняў зь Беларускай і Ўкраінскай савецкімі рэспублікамі і пра ўстанаўленьне амэрыканскіх пасольстваў у Менску й Кіяве. У сваім абгрунтаваньні гэтага праекту, кангрэсмэн Сміт пісаў: **«Мы мусім імкнуцца да вызваленьня гэтых народаў ад сталёвых кайданаў, якія супраць іхнай волі прыкоўваюць іх да камуністычнай Расеі».**

Калі-ж хутка пасьля гэтага палітыка вызваленьня была Амэрыкай здадзеная ў архіў і наступіла пара нешчасьлівай каэгзыстэнцыі, дык і праект рэзалюцыі Сміта таксама апынуўся ў архіве Палаты Рэпрэзэнтантаў. Больш таго! Амэрыканскі сэнатар Вэйлі ў мінулым годзе навет прапанаваў выключыць Беларусь і Ўкраіну зь ліку сяброў Задзіночаных Нацыяў.

Цяпер-жа, як бачым, амэрыканскі дыпляматычны карэспандэнт выказаў думку, што Амэрыка павінна, аднак, зьвярнуць большую ўвагу на Беларусь і Ўкраіну, выкарыстаць гэтыя краіны супраць бальшавіцкай Расеі і памагчы ім вызваліцца і ўнезалежніцца ад Масквы.

Тут варта яшчэ дадаць, што «Ньюсвік» ёсьць паважным журналам, зьбліжаным да амэрыканскага дзяржаўнага дэпартамэнту, і што ў справах замежнае палітыкі звычайна зь ім кансультуецца.

---

# У паняволенай Беларусі

### ДАЛЕЙ АД ПРАПАГАНДЫ!

На шэрагу прадпрыемстваў у шмат якіх калгасах МТС мастацкай самадзейнасьці наагул ня існуе. Нярэдка такое становішча культасьветработнікі, камсамольскія актывістыя тлумачаць тым, што няма здольных арганізатараў або моладзь не жадае ўдзельнічаць у гуртках.

(Паводля «Чарвонае Зьмены» з 23. 8. 55)

### ЧЫМ ЗАЙМАЛІСЯ ДЗЕЦІ НА БЕЛАРУСІ Ў ЧАСЕ ЛЕТНЯГА АДПАЧЫНКУ?

◆ Піянераў Пагарэльскай школы Мірскага раёну сустрэнеш цяпер і на полі, і на гародзе, і на жывёлагадоўчай фэрме. Хлопчыкі й дзяўчынкі дапамагаюць старэйшым. Вучні дапамаглі калгасу акучваць бульбу, зьбіраць сена, даглядаць пасевы кукурузы й цукровых буракоў. Старэйшыя хлапчукі (рэбяты) нарыхтоўваюць торф, вывозяць на палі гной, даглядаюць калгасных коней і цялят.

◆ Як толькі скончыліся заняткі, вучні, якія пражываюць на тэрыторыі калгасу імя Молатава, Старавысоцкага сельсавету, стварылі брыгады для дапамогі хлеборобам. Больш за 30 гэктараў бульбы й кукурузы даглядаюць школьнікі сваімі сіламі. Цяпер старшаклясьнікі звозяць траву для сіласаваньня, а таксама на подсьціл для жывёлы.

◆ Вучні Хараўскай і Рудніцкай школаў Пружанскага раёну працуюць на жніве. Шмат якія старшаклясьнікі вяжуць снапы, жнуць. Яны таксама сушаць бабкі, зьбіраюць каласы.

◆ Вучні Дэмброўскай школы Шчучынскага раёну працавалі на акучваньні бульбы, праводзілі шароўку кукурузы й цукровых буракоў, працавалі на сеназборы, а цяпер выйшлі на жытнёвае поле.

◆ Дзесяць гэктараў кукурузы пасеялі вучні Азерскай сярэдняй школы Узьдзенскага раёну...

◆ І г. д., і г. д., і г. д... (Паводля «Чырвонае Зьмены» з 23. 8. 55 і згодна з праўдай).

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

---

**Кузьма Чорны**

# Лявон Бушмар

**ЧАСТКА ДРУГАЯ**

**(Працяг)**

### X

Вінцэнты ачомаўся надвечар. Сьнегавы холад абудзіў яго. Вельмі балеў левы бок і плячо. Навет зварухнуцца было цяжка Ён папробаваў крычаць, але ня мог. Замест голасу, было штосьці ня людзкае, немагушчае. Ён ляжаў гэтак і калаціўся ад холаду. Разам з тым гарачка туманіла галаву і ламала калені. Разгаты дуб упіраўся над ім у неба. Вецер не даваў спакою. Вінцэнты зноў пачаў траціць прытомнасьць, але вострыя струменьчык думкі на момант устрасянуў яго. Ён зрабіў нечалавечы рух балючым целам і сяк-так перакінуўся на другі бок, пасьля лёг на жывот. Грудзі ўехалі ў цяжкі сьнег. Уткнуўся ў яго і твар. Цяпер стала яшчэ горш. Ён так пабыў, пакуль адсопся, і паспрабаваў паўзьці. Ногі былі здаровыя, ён імі ўпіраўся ў сьнег і гэтак патроху браўся наперад. Так выкіроўвацца пачаў на сьцежку. А там ужо шукалі яго

Тымчасам каля сьцежкі ён зусім страціў сілы і прытомнасьць. Як бралі яго пасьля на сані, яму здавалася, што гэта Бушмар, дробны паўпанак, саджае яго ў свой фаятон, а ён ня хоча лезьці: «я яго ніколі ля касьцёлу за локаць ня трымаў, у яго навет свайго лёкая няма, і ня гонар мне езьдзіць у яго фаятоне, ды яшчэ разам зь ім». У хвіліны прасьвятленьня думкі ён шаптаў:

— Гэта ён, гэта ён.

— Хто і што? — пыталі ў яго.

— Ён, ён — шаптаў ён і ня мог сказаць — «Бушмар».

Дома ён упаў у вялікую гарачку. І ўсё сухімі губамі шаптаў, крывячыся ад болю:

— Вяльможны пане, ня турбуйцеся. Калі вяльможная ласка.

Аж сыну яго й нявестцы было прыкра.

Тады былі месячныя ночы. Суседзі вышлі на тое месца — гаварылі, што навокал санных і пешых сьлядоў шмат. Убачылі, што праўда. І здагадавацца тады-ж пачалі — сьлед павёў якраз у Бушмараву дарогу. Але за якую крыўду Бушмар мог абязьвечыць гэтак старога Вінцэнтага? Прычына нікому навет і на думку не магла ўзбрысьці.

Ціхая была зіма. Сьляды там на сьнезе засталіся надоўга. Доўга Бушмараў сьлед чуў на сабе і Вінцэнты. Не спадзяваліся нават, што ён выжыве. Страшна стала хрыпець у яго ў грудзях. Але стары быў жывучы, як кот. Пад вясну сяк-так узвалакацца пачаў на ногі.

— Бушмар? — запытаў раз быў сын, калі бацька весялей глядзець пачаў на сьвет.

— Але.

— За тое?

— За тое самае.

І між імі стала маўклівая згода. Абодва думалі, як адпомсьціцца, і каб людзі ня ведалі, з чаго ўсё пачалося. Стары патроху дужэў. Сонечнымі днямі, пад вясну, вывалакацца пачаў ён на двор. Ён бачыў і чуў навокал рух зьінaчваньня сьвету. Але ён спачатку ня думаў ні пра што— дзякаваў Богу, што сяк-так выскрабся ад хваробы. Пасьля-ж, калі пачуў у сабе больш сілы, ранейшая злосьць пачала варочацца да яго. Ён хадзіў, як стручаны.

Ён усё прапыткоўваў па людзях, дзе што чуваць на сьвеце, ці не гавораць дзе пра што добрае, ці ня йдуць адкуль навіны. Ён цікавіцца пачаў кажным новым чалавекам, але з сваімі, гутэйшымі людзьмі, ня лішне трымаўся блізка. Дрэнна чуў ён сябе тут.

Ён прыслухоўваўся і прыглядаўся, што робіць і дзе паварочваецца Бушмар. І чуў тут прыемныя навіны. Бушмар, казалі, бунтуецца. Хтосьці недзе чуў, як ён граізіў нейкаму, нібыта гаварыў, што жывым у рукі ня дасца.

Дакладна гэтага ніхто не сьцьвярджаў, але гаворкі былі. І гэта хоць трохі, ды цешыла Вінцэнтага. Ён гэтым толькі й жыў цяпер.

Пра Бушмараў хутар Вінцэнты больш ня думаў. Сама думка гэтая аж сьцепала яго.

Так жыў ён і пакрысе ачуньваў.

### XI

Бушмар усё больш пачынаў нядобра пачуваць сябе пад зіркам Галеніных вачэй. Зірк гэты пакрысе ператварацца стаў з пажаноцку хітрага, гульлівага, у цьвёрды і нават жорсткі. Яна як-бы загадвала гэтым зіркам. Ён ня то што баяцца пачынаў яе, а чуў у Галене штосьці яе ўласнае, што ніколі ня страціцца ў яе, ніколі не падначаліцца пад чужое.

Яна часта падносіла яму сына:

— На, паглядзі. Бачыш, у яго бровы такія, як у цябе робяцца.

— Але, — гаварыў ён, дакранаючыся пальцамі да незарослага цемя дзіцяці.

Ён сам пачынаў чуць, як цяжка разбурыць той холад, які зьявіўся між імі з таго самага першага вечару, калі вярнуўся ён з астрогу, і з таго другога вечару, калі ён, абязьвечыўшы Вінцэнтага, уцякаў да брата. Пасьля гэта вырасла вельмі, калі ён вярнуўся праз тыдзень ад брата, і яна сказала яму:

— Ну, заб'еш ты мяне, ці не?

Ён маўчаў.

— Скажы.

— Нашто табе гэта?

— Хачу ведаць. Калі гэта ты праўду тады казаў, дык я ня буду чакаць, а забяру дзіця і пайду.

— Ты мусіць хочаш давесьці мяне да гэтага, калі ўспамінаеш наўмысьля, што я калі сказаў.

Ён ведаў, што яна гэта зьдзекуецца зь яго, помсьціць за яго неабдуманае слова. Бачыў, што яна нідзе ў крыўду ня дасца, што яна нават за слова даравацьня хоча. І гэта рабіла яе дзеля яго больш як калі, прынаднай, але-ж больш, як калі, і далёкай. Прыкрасьць да ўсяго вырастала ў яго. І горш за ўсё было тое, што ён цяпер пачынаў думаць, прынамсі несьвядомае зьяўлялася імкненьне дзесьці ў істоце дазнацца, дзе пачатак гэтае варожасьці між ім і Галенаю. Варожасьці, што за кароткі час апрыкрала ім абодвым, але-ж і пазбыцца якое было нельга. Але пачаткі думак гэтых прападалі, ледзьве зьявіўшыся.

Былі ў іх і лепшыя хвіліны. Часамі, пасьля даўжэзнае маўчанкі, яны пачыналі гаварыць пра што-небудзь ня вельмі важнае і цікавае для іх цяпер абаіх. Раз, напрыклад, яна сказала:

— Мусіць шчэпы ў садзе павымярзалі, ніхто не абгледзеў іх на зіму.

— Не да гэтага было, — буркнуў ён, але чамусьці ўзьняў на яе вочы.

Мусіць штосьці было ў голасе яе цяпер, што нагадала ранейшы час іх, калі яшчэ ён толькі паглядаў з вакна, ці ня доўга бавяцца каля хаты хлопцы, а яна хвалявала яго бляскам вачэй

І яны цяпер пачалі гаварыць пра ўсялякую драбязу, маючы асалоду не з гаворкі гэтае, а з нейкае згоды між імі. Але гэта сапраўды была толькі згода. Больш за ёю нічога ня было. Так гэта й прайходзіла, як зьяўлялася. Бяз сьледу й карысьці.

Затое часамі Бушмару было абыякава ўсё — і халоднасьць жонкі, і нелады навокал яго. Хоць з гэтага ўсё нараджалася, але засланяла сабою першапрычыну і само вырастала ў ім і поўніла сабою ўсё. Гэта часта было, і заўсёды тады, калі Бушмар пакідаў за сабою ўсё і быў адзін. Апошні раз гэта было перад самым канцом зімы, і той раз яно скончыла ўсё ранейшае.

Зіма тады канчалася рана. Яшчэ ў канцы лютага зьбіралася пад сьнегам вада, і дарогі пачалі прападаць. Бушмар надвечар прыехаў ад брата. Страшна змарыў, аж да пены, свайго стаеньніка. Сам прамок на імгле і быў злосны. Гнаў каня па прабоінах і замакрэлых ухабах і нікому не зьяжджаў з дарогі (гэта й заўсёды меў ён сабе прывычку гэтую). Дома якраз іскра папала ў порах:

— Нашто ты гэтак каня морыш, улегцы едучы? — сказала Галена.

# Да гадавіны сьмерці Леаніда Карася

Праглядаючы карэспандэнцыю мінулых год, мне трапіў у рукі ліст Карася, пісаны ім у канцы лістапада 1944 году. Лявон быў тады кіраўніком СБМ-у ў дзіцячым лягеры ў Магдэбургу. Ніякія словы ня перададуць ягонага патрыятызму й сяброўства, як гэты ліст. Вось колькі ўрыўкаў зь яго:

«...Жыцьцё цяпер такое, што вельмі лёгка налажыць галавой. Няма ніводнага дня пэўнага, а не хацелася-б зьгінуць у руінах падурному, ня ведама за што, калі нашая нацыянальная справа патрабуе маладых і здаровых людзей.

«...Я зложыў заяву ў Вайсковае Кіраўніцтва Цэнтральнае Рады аб жаданьні ўступіць у рады Беларускага Легіёну. Ужо мусіць з тры тыдні прайшло ад таго часу, а мне яшчэ нічога не адказалі. Мне пісаў Р., што ваша школа (ахвіцэрская) яшчэ ня зусім зарганізаваная, што не хапае ложкаў і г. д. Магчыма дзеля гэтага мне не адказалі. Ты пагавары зь лейтэнантам К., можа-б ён там пастараўся, каб мяне хутчэй прынялі. Скажы яму, што я лепш буду спаць на голых дошках пад ложкам, але ў беларускім войску й з сваімі хлопцамі, чымся на магдэбурскіх матрацах...»

Цераз пару тыдняў Лявон, абладаваны харчамі, прыбыў у бэрлінскі беларускі кадравы батальён. Ён быў прыняты ў ахвіцэрскую школу. Тут ён сустрэў шмат сяброў, а навет і такіх, што ня бачыў яшчэ ад часу разьвітаньня з Бацькаўшчынай (6. 4. 44). Адразу-ж склікаў усіх на сяброўскі пачастунак.

— Ня думайце, што Карась жабраком прыехаў да вас, вы яшчэ і ў Бэрліне таго ня елі, што знаходзіцца ў гэтых пакунках, — хваліўся ён, паглядаючы на сяброў.

Хтосьці зьвярнуў увагу на плястар, які ў яго быў на твары.

— Гэта падарунак ад «заходніх плютакратаў», — жартаўліва адказаў Лявон, і пачаў расказваць аб апошнім налёце на Магдэбург, як загарэўся іхны лягер, як заваліўся бункер, і як пры гэтым яму лёгка раніла твар.

* * *

Першыя дні траўня 1945 году. Рэгензбурскі лягер ваенна-палонных — поле абцягнутае дротам, дзе апрача нямецкае, можна пачуць усе мовы народаў усходняе Эўропы, нагадвае бязьмежны кашмарны муравейнік. Пасьля колькіх дзён холаду й дажджоў, прыгрэла сонца, пачалася гарачыня. Да голаду далучылася яшчэ адно няшчасьце — нястача вады. А гэта куды горш за голад. За кубак вады аддавалі найлепшыя гадзіньнікі. Адусюль клікалі санітараў, і памлелых нямецкіх жаўнераў падбіралі й адносілі ў санітарныя баракі. Нашы больш загартаваныя, трымаюцца лепш.

Групка беларускіх жаўнераў. І Карась тут. Яму зайздросьцяць: два дні як ужо выпускаюць на свабоду ўсіх тых, хто мае пасьветчаньне аб працы на хвабрыцы. Ён яго мае. Хопіць толькі пайсьці да брамы, дзе ўжо стаіць чарга ўласаўцаў з такімі-ж пасьветчаньнямі. І там воля! Свабода! Ідзі куды хочаш.

Лявон каторы раз дастае сваю хвабрычную пасьветку й асьцярожна, быццам нейкі скарб, трымае ў пальцах.

— Хто калі думаў, што гэтая паперка станецца калісьці такой дарагой, — кажа ён паволі бяз суму й бяз радасьці.

Яму-ж зайздросьцяць.

— Ну, дык калі-ж ты пойдзеш? — пытаецца хтосьці.

— Куды? перапытваецца Лявон.

Усе маўчаць і ўсе, як і сам Лявон, ведаюць, аб чым гаворыцца.

— Што вы, падурнелі? Куды я пайду? Разам папаліся, разам і гараваць будзем. Цыган за кампанію вешаўся, а што, думаеце, Карась не патрапіць? Гасподзь з вамі, дзе ўжо маё не прападала...

І застаўся ён дабравольна палонным у імя сяброўства.

* * *

Аднойчы пад канец жніўня, у тым-жа Рэгензбургу, я цягнуўся нейкім завулкам, нікуды не сьпяшаючыся. Ужо зь месяц, як я на свабодзе. Мне не хапіла ні Лявонавай цярплівасьці, ні ягонае сяброўскасьці, і калі не ўдалося яго намовіць на ўцёкі, я, карыстаючыся лёгкай нагодай, уцёк, як і шмат іншых, пакідаючы Лявона ў лягеры.

Падходзячы пад галоўную вуліцу, мне раптам здалося, што на тратуары мільганула постаць Карася. Ён, ці толькі здалося? Дабегшы да галоўнай вуліцы, я кінуўся наўздагон. Наперадзе — двух жаўнераў. Ужо за некалькі крокаў пазнаю Карася. Падкрадаюся ззаду, кладучы яму руку на плячук, голасна крычу: «Гальт!». Ён раптоўна паварочваецца, і мы ад неспадзеўкі, перш чым прывітацца, глядзім адзін на аднаго, быццам стараючыся пераканацца ў праўдзівасьці самое сустрэчы.

— А браток ты мой, я-ж думаў, што з вас ужо нікога не застану ў Рэгензбурзе, ды ўжо перадумоўваў, куды йсьці й дзе вас шукаць.

Вяду яго на сваю кватэру. Гэта нейкі пусты магазын вопраткі без гаспадара. Нас тут ужо чалавек зь дзесяць.

За пару хвілінаў на стале зьяўляецца бутэлька ў чэсьць Карасёвага прыходу. Пасьля першае шклянкі, ён, робячы загадкавую міну, дастае зь кішэні нейкі аркуш паперы і пачынае ўрачыста чытаць. Гэта ягоны «энтлясунгсшайн» — пасьветчаньне аб звальненьні з палону.

— Вось вам прыклад жаўнера, — весела кажа ён, — чэсна служыў, чэсна адгараваў у палоне, чэсным шляхам выйшаў зь яго. Ня то што вы: я дзеля іх у палоне застаюся, а яны ходу. Цяпер прынамся памятку маю (і ён паказаў на пасьветчаньне), будзе што і ўнукам паказаць...

* * *

Старая запушчаная вуглякопня ў Шатляндыі. Гэта гэтак званы «ўнівэрсытэт вуглякопаў», дзе праходзяць колькітыднёвы курс пачынаючыя вуглякопы. Перапынак. Пад скалістай сьцяной падзямельля сядзіць колькі беларускіх хлапцоў. Між імі можна бачыць Лявона. Ён любіць расказваць толькі аб дзьвюх мясцовасьцях: аб сваіх Дзямідзенках у Глыбоччыне і аб лягеры Мальта, куды ён трапіў пасьля выезду зь Беларусі. Дзямідзенкі! Бацькі ягоныя мелі там добра загаспадараваны хутар у прыгожай ваколіцы побач невялікае рэчкі. «А якія слаўныя заліўныя сенажаці былі там. Выйдзеш касіць з расой, і аж ахвота бярэ. Бацька быў добры касец, але з пракосу мяне ні разу ня выгнаў», — працягвае ён і пасьля дадае: «Хто-б калі падумаў, што прыдзецца залезьці аж у гэтае чортава падзямельле...»

* * *

Пасля двухгадовае працы ў ангельскіх вуглякопнях Карасю ўдалося пераехаць і студыяваць на лювэнскім унівэрсытэце. Потым — ізноў Нямеччына...

* * *

18 сьнежня мінулага году Мюнхенская газэта «Süddeutsche Zeitung» пісала наступнае:

«14 верасьня, недалека ад Віттэльсбахскага мосту зь Ізару выцягнулі цела. Гэта быў 31-гадовы перакладчык Леанід Карась, які працаваў на радыястанцыі «Вызваленьне». Тады ўважалася, што Карась стаўся ахвярай нейкага выпадку. Новыя дадзеныя Камісіі Забойстваў дазваляюць меркаваць, што над Карасём зроблена праступства...»

* * *

На першыя ўгодкі паховінаў Лявона, група мясцовых Беларусаў зыйшлася над ягонай магілай. Сьвятар служыць Паніхіду й асьвячае помнік. На шэрым граніце чарнеюць літары: Сьв. П. Леанід Карась Дзямідзенкі Беларусь 20. XI. 1923 † Мюнхен 7. IX. 1954. Сьпі, Працаўнік і Змагар. Сябры».

«Сьпі пад курганам гэрояў» — плыве мэлёдыя жалобнага маршу над магілай працаўніка й змагара.

**Сябра**

# Няма падставаў да трывогі

**(Да ўвагі нашых суродзічаў у Нямеччыне)**

Да нас пачынаюць даходзіць весткі, што нашы суродзічы ў Нямеччыне пачынаюць паважна непакоіцца разьвіцьцём падзеяў апошніх месяцаў, а асабліва тыдняў. У гэтым няма вялікага дзіва. Акцыя гэтак зв. «Камітэту за вяртаньне на Радзіму» (гэтак ён афіцыяльна пабеларуску завецца) была пачаткам савецкага наступу на эміграцыю. Да гэтага міжволі складаецца ўражаньне, што між нерасейскіх народаў Беларусы зьяўляюцца асаблівым аб'ектам гэтага наступу: не гаворачы ўжо аб адмысловых радыёвых перадачах, паралельнае з расейскім выдаваньне газэты «За вяртаньне на Радзіму» пабеларуску заслугоўвае на ўвагу. Роля гэтае наскрозьхвальшывае газэткі ляжыць ня так у пераконваньні, як у выкліканьні разгубленасьці й непакоі за будучыню, што добра адцеміў у сваім артыкуле Мацьвей Заранка.

Як і трэба было чакаць, гэтым пачынам савецкі наступ не абмежаваўся. Наступным крокам была заява Булганіна пры перамовах з Адэнаўэрам у Маскве. Вось-жа Булганін «выразіў надзею», што заходня-нямецкі ўрад прычыніцца да рэпатрыяцыі «затрымоўваных» савецкіх грамадзян (sic!), што знаходзяцца яшчэ ў Нямеччыне. Вынікі-ж перамоваў Адэнаўэра — згода на навязаньне дыпляматычных сувязяў з Масквой — таксама прымушае задумацца аб наступствах. Далей, абвешчаная Саветамі амнэстыя «калябарантам», куды была ўключана й эміграцыя, была лягічным працягам, і трэба думаць — кульмінацыйным пунктам наступу на эміграцыю.

Пакінем іншым разгляд гэтага апошняга кроку ды выкрыцьцё ягоных запраўдных мэтаў. Затрымаймася лепш на заяве Булганіна, якая выклікае зразумелую, але — як мы ўжо сказалі ў загалоўку — на нашу думку беспадстаўную трывогу.

Сказаўшы проста: людзі баяцца фізычнага ціску — прымусовае рэпатрыяцыі. У нас яшчэ сьвежыя ў памяці першыя гады пасьля вайны...

Ня трэба забывацца аднак, што 1955-ы год — гэта ня 1945-ы. Грамадзкая думка Захаду змабілізаваная, і навет калі-б у якіх-небудзь палітычных колах знайшліся прыхільнікі прымусу, яны не адважацца пайсьці супраць яе.

З другога боку, ёсьць і пазытыўныя факты, якія ня двузначна даводзяць, што прымус у ніякім выпадку ўжывацца ня будзе. Прыводзім вытрымку з рэпартажу аб справаздачы заходня-нямецкае ўрадавае дэлегацыі ў Маскву, зьмешчанага ў „Süddeutsche Zeitung“: «На савецкія дамаганьні рэпатрыяваць савецкіх грамадзян, якія яшчэ жывуць у Фэдэральнай Рэспубліцы, нямецкая дэлегацыя заявіла, што, бязумоўна, кажны савецкі грамадзянін можа зараз-жа пакінуць Нямеччыну, **калі ён гэтага жадае»** (падкр. наша — У. Н.). Гэта словы Брэнтано — міністра замежных спраў Заходняе Нямеччыны.

Інакшага становішча заходня-нямецкая дэлегацыя заняць не магла, навет калі-б мы дапусьцілі найбольш няспрыяльнае настаўленьне яе да эміграцыі (што, між іншага, зусім выключаецца). Не магла таму, што **канстытуцыя Нямецкае Фэдэральнае** (заходня-нямецкае) **Рэспублікі ясна й ня двузначна прызнае права палітычнага прыстанішча (азылю).** Інакш кажучы, **кажны, хто не жадае вярнуцца ў сваю краіну з палітычных прычынаў, ахоўваецца канстытуцыяй — найвышэйшым законам.**

Зусім магчыма й праўдападобна, што заходня-нямецкі ўрад можа дапусьціць савецкія рэпатрыяцыйныя камісіі, даючы гэтым нагоду выехаць тым, **хто жадае.** Нікому таксама не сакрэт, што сваю амбасаду ў Заходняй Нямеччыне бальшавікі будуць выкарыстоўваць, як пляцоўку бэрлінскага «Камітэту за вяртаньне на радзіму». Гэта аднак не павінна нас запалохаць: бальшавікі бясьсільныя ў дачыненьні да нас. Мала таго — яны нас баяцца, і гэтым выясьняецца іхная акцыя.

У наступным артыкуле разгледзім патрэбу й магчымасьці супрацьдзеяньня бальшавіцкім мэтадам, накіраваным на зьнішчэньне нашай палітычнай эміграцыі.

**Уладзімер Нямановіч**

## У паняволенай Беларусі

Пасавецку — гэта завуцца канікулы, летні адпачынак, набіраньне сьвежых сілаў і шчасьлівая маладосьць.

**РУСЫФІКАЦЫЯ Ў ШКОЛАХ**

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва выдала да пачатку навучальнага году 5 мільёнаў падручнікаў на беларускай мове. Акрамя гэтага на Беларусь прывезена з Расейскае СФСР 4,5 мільёна падручнікаў на расейскай мове. (Паводля «Чырв. Зьм.», 1. 9. 55).

**КОЛЬКАСЬЦЬ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАЎ У МЕНСКУ**

Цяпер у Менску працуюць 28 ВНУ, іх філіялаў і аддзелаў, 67 спэцыяльных навучальных установаў, 80 дзённых і вячорных школаў. («Чырв. Зьм.», 1. 9. 55)

— Што табе да каня? Маўчала-б!

— Чаму маўчала-б?

— Таму што... К д'яблу!

Увайшоўшы ў хату, ён заўважыў, што Галена кудысьці зьбіраецца. Ён моўчкі глядзеў, што з гэтага будзе. Яна раптам пакінула свае зборы і лягла спаць.

— Ага, — загаманіў ён, дзіка і ўрачыста сьмяючыся, — пастрашыла. Ну што, пастрашыла?

— Слухай, абазвалася яна, — я цябе ня страшыла і страшыць ня думаю. Ты сам бачыш, што — якая гэта наша жытка! Гэта каб увесь век у гэтакім пекле жыць? Лепш мне пайсьці адсюль. Я даўно гаварыла пра гэта зь людзьмі. І з Аміляю гаварыла, і з шмат зь кім там гаварыла. Туды я й пайду.

— Дык ты ўжо гаварыла?! Даўно ўжо думала пра гэта?! У маёй хаце ўсё гэта робіцца, а я нічога ня ведаю!...

Ён крычаў і тупаў нагамі. Ён праспаў тую ноч у кухні на лаве, а раніцою зьнік з хаты. Ён стаяў на ўзьлеску, адзін, пануры постацьцю, але не пануры тварам цяпер. Як зьвер, якому дзесьці здалёк запахла воля. Ноздры яго разьдзьмуліся, бровы ссунуліся, і з-пад іх вочы сьвідравалі ветравую далячынь. Высокая, чуць сутулая постаць яго доўга ўзвышалася на ўзьлеску.

Там, на сонцы, сьнег пасыходзіў, і лепашняя трава зеляніла свае вяршкі. Адзін кусьцік яе, малады, веснавы, бялявы, папаў пад Бушмараў бот. Падкаваная набойка глыбока ўвагнала яго ў зямлю.

Пакуль не вярнуўся, Бушмар ня думаў, зусім забыўся на сваю хату і Галену з сынам.

У тую-ж ноч Вінцэнты, адхаяны сынавым доглядам, падпаліў Бушмарава гумно. Ноч была бязь ветру, і гумно згарэла ціха, як сьвечка. У ім згарэла шмат Бушмаравага набытку.

Тымчасам, Вінцэнтаму падпаліць гумно ня было лёгка. Ён колькі разоў варочаўся з паўдарогі, ад страху, пасьля зноў ішоў. Ён цягаўся ўночы доўга, плюхаўся па мокрым сьнезе, праваліваўся па калені ў ваду, падыходзячы да гумна паплавамі. Нарэшце, калі прытуліўся за гуменным вуглом, пачаў шпарка жагнацца. Ткнуўшы агонь пад навіслую нізка страху, ён з усіх сіл кінуўся наўцекі. Колькі разоў паваліўся па дарозе і ўвесь вымак у ледзяной вадзе да апошняй ніткі. Да дому ён не пайшоў проста дарогаю, а даў кругу, паўзь лес, каб не папасьціся на людзкія вочы — на пажар зараз-жа пачалі бегчы. Хацеў ён яшчэ падпаліць і Андрэева гумно, але напалохалі яго там людзі, калі ён стаяў ля гумна. Змучаны і змочаны, дапаў Вінцэнты да хаты. Палез на печ, укрыўся кажухом і хваравіта задрамаў. Назаўтра прачнуўся ён у гарачцы. Прахвароў нешта з тыдзень і сканаў.

Бушмар-жа наказаў брату, каб той прыехаў. Брат охкаў і бедаваў, але ня так па тым, што ўцякла Галена, як па тым, што згарэла гумно.

**(Канец другое часткі)**

**Власт (Вацлаў Ластоўскі)**

# Сябра з каўбасай

Такое прозьвішча носіць цяпер адзін з маіх сябраў, а як ён нажыў сабе гэтае прозьвішча, зараз раскажу вам.

У часе няціхот у нашым глухім гарадку спакойныя дагэтуль вулкі і завулкі чыста зьмяніліся на нейкае «гарачае поле», поўнае ўсякіх злыдняў, якіх за апошні час няўмеру разьвялося і каторыя ўздоймам рабілі аблавы на каліты, гадзіньнікі і польты сваіх блізьніх. Забава сама па сабе нішто, але тое толькі псула забаву, што не абедзьве стараны роўна ёй цешыліся... Дзеля гэтага, хто меў грошы і адвагу, купляў і насіў пры сабе рэвальвэр, а хто ня меў грошы і быў менш адважны, лічыў на свой спрыт у нагах, ды сілу рук. К таму за нашэньне пры сабе аружжа ўрадовыя абвесткі гразілі вялікім штрафам і адседкай; паліцыя-ж адбірала навет і кіі, таўсьцейшыя за палец. Каго прымус будзь службы, будзь іншыя якія справы ня выганялі з хаты, то вечарамі пілнаваўся дому, але ня ўсе маглі гэтак рабіць: іншым што-дня са службы трэба было варочацца ноччу на край гораду, дык, каб сьмялей было, хадзілі грамадамі. Адзін толькі мой сябра, Пётра Гродзь, зь нейкага часу набраўся хванабэрыі і перастаў пілнавацца грамады. Ведаў я, што ня можна яго залічыць да лішня сьмелых людзей, і тым больш дзівіла мяне, скуль гэта ён зрабіўся такім рызыкантам? Углядаючыся на яго, я прыкмеціў, што ён заўсёды цягае з сабой нейкі пакунак — ня надта грубы, але доўгі на якія тры чверці аршына. Я адразу ўцяміў, што гэта ня што другое, як аружжа, але цяпер сам я сьцярогся хадзіць зь ім, бо баяўся, каб разам зь ім і мне ня прышлося дрэнна, як спаймаюць яго з аружжам. Так і вышла. Раз праходзіў ён неяк глухім завулкам, і тут прыступілася да яго двое «невядомых» і пачалі евангельскую гутарку: каб ён аддаў ім верхнюю сваю адзежу! Сябра мой евангельля ніколі ня чытаў (быў Татарынам) і ня ведаў, што калі хто папросіць у цябе верхнюю адзежу, «аддай яму і споднюю!» — дзеля гэтага ён аднаго, заместа адказу, аглушыў на месцы, другому пераламіў руку. Гэтак рабіць ня можна, але сябра мой быў чалавекам простым і рабіў усё ня з розуму, а з сэрца. Падняўся гоман на вуліцы: надыйшла паліцыя і ўсіх траіх гарадавыя пацягнулі ў вучастак. Як і што там было, ня ведаю; гарадавыя толькі расказвалі, што па дарозе еў ён каўбасы, трактаваў імі сваіх праціўнікаў і гарадавых, а ў пратаколе пісалася, што раны былі зроблены тупым аружжам, і пры ім ніякага аружжа не аказалася. На другі дзень яго выпусьцілі, і гэты дзень ён аддыхаў (ён заўсёды аддыхаў, калі яму не здаровілася). Трэйцяга дня Гродзь быў ізноў на службе зь неадлучным сваім пакункам, толькі цяпер гэты пакунак заверчаны быў у іншую паперу.

— Скажы мне, братка, што гэта заўчора з табой прылучылася? — пачаў я брацаь яго на спыткі.

— Напалі на мяне, як сам ужо ведаеш, — ну і абараняўся.

— Чым?..

— Во, гэтым, — сказаў ён, паказаўшы на доўгі свой пакунак і дзіўна неяк усьміхаючыся.

Я змоўк, але ніяк ня мог дагадацца.

Ён увесь час углядаўся на мяне, а пасьля засьмяяўся і наддзёршы паперу, паказаў мне... — ну, згадайце, што ён паказаў мне? — каўбасу!.. Я даўно ведаў, што сябра мой умее рабіць дурныя жарты, але гэтага не спадзяваўся. Дзеля гэтага я нічога не адказаў і ўбіўся ў сваю работу. Тады ён сам растлумачыў.

— Вядома, што добра высушаная сальцэсона ці, як яе Расейцы завуць, «італьянская каўбаса», цьвёрда, гнучка і пры ўдары мае зусім тую сілу, што і гумілясьцікавая палка, а дзеля гэтага можа служыць добрым аружжам для абароны!

Сьпярша я ня даў яму веры і да вечара ўнікаў яго. Але вечарам, ідучы дамоў, зайшоўшы ў краму, я купіў сабе такую самую каўбасу. І дома пераканаўся, што сябра мой праўду казаў: гэтай каўбасай я адным ударам ламаў цалёвую дошку.

На другі дзень прыйшоў я на службу з такім самым пакункам, як і ў майго сябры. Гэтага дня я трактаваў яго папіросамі і стараўся дагадзіць яму. Таго-ж дня вечарам ідучы грамадай дамоў, я перад усей кампаніяй выявіў новае адкрыцьце. Яны сьмяяліся і жартавалі, але на другі дзень адзін за адным зьяўляліся з доўгімі пакункамі на службу.

Трэйцяга дня праходзячы горадам, заўважыў я зусім незнаёмых мне людзей з сальцэсонамі пад пахай, а пятага дня, калі кот-памаўза сапсаваў маё аружжа, я, зайшоўшы ў краму, даведаўся, што цана на сальцэсоны з 40 капеяк паднялася да 50 за фунт.

За месяц у нашым горадзе адбыўся галасны паядынак на сальцэсоны мясцовага доктара з адвакатам, які нарабіў нямала гоману.

У палавіне другога месяца аб новым адкрыцьці дазналася паліцыя і па ўсіх вуліцах гораду быў расклеены цыркуляр, які абвяшчаў, што людзям, каторыя ня маюць пазваленьня на аружжа, забараняецца насіць пры сабе сальцэсоны ў кусках, даўжэйшых за цьверць аршына. Аружжа гэта, паясьняў цыркуляр, тым больш шкоднае, што, «вещественные доказательствы» лёгка могуць быць зьнішчожаны.

Гэтакім парадкам каўбаса афіцыяльна была прызнана за важнае аружжа, а мой сябра за сваё адкрыцьце дастаў прозьвішча «сябра з каўбасай».

Вільня, 25. 7. 1910 **Власт**

# Кангрэс «Пакс Романа»

Міжнародны рух студэнтаў і інтэлектуалістых каталікоў паўстаў у 1921 г. Ад таго часу ён разросься. Сябрамі Пакс Романа зьяўляюцца сяньня арганізацыі 48 нацыянальнасьцяў. У гэтым годзе ў Nottingham ад 17 да 25 жніўня адбыўся 23-ці сусьветны кангрэс «Пакс Романа». Гэта быў адзін з тых кангрэсаў, на які сабралася вялікая колькасьць дэлегатаў: усіх разам больш за 700. Хаця унівэрсытэт у Nottingham аддаў да дыспазыцыі кангрэсу ўсе свае прыгожыя і выгадныя будынкі, аднак для прац кангрэсу аказалася не зашмат месца і некаторыя з удзельнікаў начавалі і сталаваліся навонкі ўнівэрсытэту.

Галоўнай праблемай кангрэсу былі студыі ўсіх тых пытаньняў, якія накідвае само жыцьцё маладому чалавеку, які толькі што скончыў унівэрсытэт. Апрача чатырох фундамэнтальных дакладаў датыкаючых рэлігійнага, культурнага, грамадзкага і прафэсійнага жыцьця, якія былі прачытаныя на агульных зборках, — вялася праца ў шасьці розных сэкцыях, на якіх апрацоўваліся наступныя тэмы: 1) Прафэсія і яе абавязкі, 2) Малады вучоны ў грамадзтве, 3) Культурнае далейшае разьвіцьцё маладога вучонага, 4) Этычныя і маральныя праблемы маладога вучонага, 5) Жыцьцё зь веры, 6) Жанчына пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту.

Апрача таго быў вызначаны час на груповыя прагулкі ў Walsingham, — брытанскія Жыровічы і ў Oscott; некалькі добрых гадзін заняло прыняцьце ладжанае маркізамі Lothian.

У пятніцу, 19 жніўня, пасьля прыняцьця ў маркіза Lothian, адбыліся асобныя даклады для цэлага кангрэсу прысьвечаныя праблемам народаў з-за зялезнай заслоны.

Былі прачытаныя наступныя даклады: а. др. Ч. Сіповіч: «Некаторыя аспэкты прасьледу Царквы за зялезнай заслонай»; сп. Л. Часноўскі: «Праблемы маладога вучонага за зялезнай заслонай»; др. І. Когары (Мадзяр): «Праблемы маладых вучоных уцекачоў»; праф. Кульчыцкі (Украінец): «Каталіцкі інтэлектуалісты ў вагні савецкай практыкі і тэорыі»; сп. Л. Мароты (Мадзяр): Яго пераажыцьці ў падсавецкай Мадзяршчыне. Дзеля таго, што час быў вельмі абмежаны, некаторыя з успомненых тут прамоўцаў гаварылі ня больш дзесяці мінут.

Гэта было першы раз, што на кангрэсе Пакс Романа прадстаўнікі паняволеных камунізмам народаў выступілі супольна. Выступленьне гэта папярэдзілі шматлікія зборкі прадстаўнікоў арганізацыяў мадзярскай, чэскай, польскай, украінскай, беларускай і латыскай. Быў створаны адумысловы камітэт, на чале якога быў сп. Я. Пазьняк, Беларус ад «Руні», і др. І. Когары, каторы спаўняў функцыю сакратара.

Зацікаўленьне гэтай часткай кангрэсу было нязвычайнае. На залі ў першых радох бачылася некалькі біскупаў на чале з Апостальскім Дэлегатам O'Hara, прафэсароў розных унівэрсытэтаў, прадстаўнікоў прэсы і радыя ББС і Голасу Амэрыкі. Айцец Сіповіч распачаў свой даклад ад апісаньня г. наз. працэсу 16, калі на аднэй лаўцы падсудных у Маскве ў 1923 г. былі архіяпіскап Цепляк і разам зь ім 14 сьвятароў чатырох розных нацыянальнасьцяў: Палякі, Беларусы, Летувісы і Расейцы. Далей падаў інфармацыі з сучаснага прасьледу ў паасобных краінах. Была зьвернута ўвага на вынішчэньне Беларусаў-каталікоў, на антырэлігійную прапаганду, якая цяпер вядзецца ў Беларусі ў мастацкай літаратуры.

Разумеецца, у поўгадзінным дакладзе ня было змогі навет закрануць усіх важных праблем. Годзе аднак заўважыць, што каталікі ўсяго сьвету сваей маніфэстацыйна-шматлікай прысутнасьцяй на залі, сваімі пазьнейшымі інтэрпэляцыямі ў дакладчыкаў, былі салідарныя ў вацэнцы той страшнай трагэдыі, якая сяньня адбываецца за зялезнай заслонай. Бяз сумлеву кажны ў душы пастанавіў зрабіць усё магчымае, каб аблягчыць долю церпячых.

На дакладзе а. Ч. Сіповіча былі такжа прысутныя нашы суродзічы з Nottingham, якія ня былі афіцыяльна дэлегатамі на кангрэсе. Пры гэтай нагодзе няхай будзе дазволеным тут шчыра падзякаваць Беларусам з Nottingham, асабліва спадаром Я. Карасю, Капачом, Несьцеравым, Селязьнёвым, Раецкаму і ўсім іншым за тую дапамогу для дэлегатаў «Руні», якую яны ад іх атрымалі. Беларускіх дэлегатаў на кангрэсе было ўсяго шэсьць і пяць зь іх жыло праз цэлы тыдзень у дамох вышэй паданых сем'яў. Гэта было вялікай дапамогай для «Руні», якая ў іншым выпадку цяжка сказаць, ці змагла-б прарабіць гэтак важную і вялікую працу, якая звычайна праводзіцца на кангрэсах.

У нядзелю 21 жніўня, калі ўдзельнікі кангрэсу мелі свабодны дзень, мы Беларусы, пасьля каталіцкай і праваслаўнай Багаслужбаў, мелі сваю зборку. Хутка заімправізаваная праграма сзборкі сп. У. Капачом аказалася вельмі шчаслівай. Сп. Капач паінфармаваў удзельнікаў кангрэсу аб жыцьці Беларусаў у Nottingham, аб іхняй грамадзкай дзейнасьці, тады калі ўдзельнікі кангрэсу расказалі аб працах і змаганьнях Беларусаў і беларускіх арганізацыяў у Францыі (сп. М. Наўмовіч), у Бельгіі (сп. С. Мак), у Гішпаніі (сп. Я. Сурвілла), у Нямеччыне (сп. Ч. Кукель) і ў Вялікабрытаніі (а. Ч. Сіповіч). Прамовы сп. Я. Карася і дзядзькі Скорына, дэклямацыі, сьпевы беларускіх песьняў і скокі нашай лявоніхі дадалі прыгожасьці і пачуцьця да гэтак рэдкай нагоды супольнага спатканьня.

Ад часу, калі Беларусы сталіся фармальна сябрамі Пакс Романа, гэтай найвялікшай сусьветнай каталіцкай арганізацыі студэнтаў і інтэлектуалістых, яны ня гледзячы на ніякія перашкоды і цяжкасьці ня толькі змаглі датрымаць кроку ў радох іншых шмат старэйшых і багацейшых арганізацыяў, але ў некаторых выпадках былі ініцыятарамі і галоўнымі выканальнікамі прац самога кангрэсу. Гэта пішам не для самахвальства, але каб яшчэ лішні раз зьвярнуцца да тых нашых пасыўных суродзічаў, якія належаць да «Руні», а нічога ў ёй ня робяць, і да тых, што маглі-б стацца яе актыўнымі сябрамі, але чамусьці яшчэ не наважыліся.

Браты! Гуртуйма калёны!
Жыве Хрыстос! Жыве Беларусь!

**а. Ч. С-ч**

**Рым, 10. IX. 1955.**

# Агульны зьезд БАКА «Рунь»

У тым самым часе, калі адбываўся Тыдзень Студыяў БАКА «Рунь», адбыўся так-жа з чаргі VI-ты Агульны Зьезд Беларускага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'яднаньня (15 жніўня 1955 г.). Было прысутных на Зьезьдзе 18 сяброў, прыбыўшых у Лёндан з шасьці розных эўрапэйскіх краінаў.

Пасьля справаздачаў Старшыні Галоўнай Управы, духоўнага асыстэнта «Руні» і дыскусіі над ёй, старая Галоўная Ўправа была аднагалосна перавыбрана. Такім чынам надалей Старшынём астаўся сп. Язэп Пазьняк, Заступнікам Старшыні сп. В. Сенкевіч (Гішпанія), сакратаром сп. Т. Мазура, скарбнікам сп. Ф. Бартуль. Уся Управа — за выняткам Заступніка Старшыні — знаходзіцца ў Вялікабрытаніі.

Было пастаноўлена на Зьезьдзе, што чарговы Тыдзень Студыяў у 1956 г. мае быць зарганізаваны ў Нямеччыне. Агульнай яго тэмай будуць студыі над маральнымі і этычнымі праблемамі ў жыцьці чалавека.

Старшынём Зьезду быў а. Леў Гарошка, а сакратаром сп. Міхась Наўмовіч.

## УВАГА!

### ХТО ВЕДАЕ ГЭТУЮ ПЕСЬНЮ?

Праца над выданьнем сьпеўніка сьв. пам. кампазытара Міколы Равенскага дабягае да свайго канца. Аднак усё йшчэ застаецца колькі неразьвязаных праблемаў. Да іх належыць і справа тэксту жніўнае песьні «Ой, ды бокам, хмарачка». Песьня гэтая ў рукапісах М. Равенскага пададзеная толькі ў сваёй першай зваротцы — «Ой, ды бокам, хмарачка, ой ды на панскія сенажаці». І гэта ўсё. Няма сумлеву, што павінны быць і далейшыя зваротк, аднак усе спробы пошукаў іх засталіся дасюль бяз выніку. У сувязі з гэтым мы зьвяртаемся да нашых паважаных суродзічаў з просьбай аб дапамогу.

Калі хто ведае песьню «Ой, ды бокам, хмарачка», ветліва просім прыслаць нам ейны поўны тэкст (залучаючы таксама й розныя варыянты яе, калі такія ёсьць), за што згары шчыра дзякуем. Пісаць у гэтай справе просіцца на адрас «Бацькаўшчыны».

**Выдавецтва сьпеўніка**

## УВАГА! УВАГА!

## Важная літаратурная навіна!

Выйшаў з друку і ўжо прадаецца найвыдатнейшы твор Якуба Коласа




Кніга папярэджаная двума ўступнымі артыкуламі аб «Сымоне Музыку» Р. Склюта й А. Бабарэкі, з партрэтам аўтара, у прыгожай каляровай вокладцы мастака Міхася Наўмовіча, на добрай паперы, і абыймом 214+XXXII (разам 246 бачынаў) друку.

Цана кнігі толькі 3 амэрыканскія даляры, а ў усіх іншых краінах іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце.

Купляць і выпісваць непасрэдна з Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне або з нашых Прадстаўніцтваў у іншых краінах.

Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ўжо канчае друк альманаху твораў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў на эміграцыі.

## *«Ля чужых берагоў»*

Цана альманаху будзе пададзеная толькі пасьля яго выхаду.

# Сіла нашае вызвольнае ідэі

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

Яна прызнае аб'ектыўныя дасягненьні, здабытыя ад часу Кастрычніцкае рэвалюцыі, як індустрыялізацыя краіны, адпаведная школьная сыстэма, шырокае вышкаленьне тэхнічных кадраў, новая сыстэма публічнага здароўя, шчодрае падбадзёрваньне талентаў і г. д. Яна станоўка адкідае дыктатуру ды дамагаецца поўнае свабоды чалавечай адзінкі. Яна ўважае сябе вышэйшай за Захад зь ягонымі сацыяльнымі й палітычнымі канцэпцыямі, аднак поўнасьцяй усьведамляе сабе, што ня зможа правесьці ў жыцьцё свае праграмы без дапамогі з Захаду.

☆

Кажны вязень адначасна рэпрэзэнтуе сабой нацыянальную й сацыяльную групу вонках лягеру, да якое ён належаў перад сваім арыштам. Агульная сума паасобных цьверджаньняў вязьняў уяўляе сабой дыфэрэнцыяваны малюнак чатырох групаў апазыцыйнага руху ў Савецкім Саюзе: сяляне, работнікі, нацыянальнасьці й інтэлектуалы.

Сярод усіх народаў Савецкага Саюзу сяньняшняе сацыяльнае незадаваленьне сялянства ня меншае, чымся яно было перад кастрычніцкім пераваротам. Стагодзьдзямі пешчаная цяга селяніна да собскага кавалка зямлі ўзрасла замест паменшаць. У сваім упорыстым і незарганізаваным супраціве сяньняшнія сяляне — гэта нашчадкі калішніх царскіх прыгонных і іхных наступнікаў, малазямельных земляробаў. Іхная палітычная сьведамасьць недастатковая, каб прыняць азначаныя формы палітычнага змаганьня. Іхная апазыцыя выяўляецца ў пасыўнасьці і сабатажу падчас працы або ў актах выбуху супраць сучаснага «земляўласьніка», інакш кажучы — калгаснага старшыні й ягоных супрацоўнікаў. Намаганьні бальшавікоў змусіць сялянтва апрацоўваць калектыўна зямлю закончыліся няўдачай. І незалежна ад усіх палітычных падзеяў, Ленін, які даў зямлю сялянам у 1917 годзе, застаецца асобай зь мітычнай і легэндарнай папулярнасьцяй у вачох сялянаў.

☆

Змаганьне Крэмля супраць незалежніцкіх рухаў нерасейскіх народаў, што цягнецца ўжо дзесяцігодзьдзямі, ня здолела зламаць імкненьня гэтых народаў да волі. Бальшавікі ўжо згубілі надзею на перамогу. «Разьвязку» гэтае праблемы яны бачаць у актах гэнацыду, пры дапамозе якіх яны дасягнуць, прыкладам, сваю мэту ўжо ў наступным пакаленьні ў наступе на гэткія нацыянальныя меншыні, як Немцы ці Грэкі. Адносна большых народаў высілак бальшавікоў сканцэнтраваны на вынішчэньне інтэлектуалаў, бальшыня якіх апынулася ў канцэнтрацыйных лягерах, а іхныя сем'і — у Сібіры й Цэнтральнай Азіі. Ня гледзячы на гэта, воля да змаганьня й вызваленьня ня гасьне. Калі апошнімі часамі нацыянальная партызанка была змушана абмежаваць сваю барацьбу, дык гэта таму, што партызанскае змаганьне ня можа цягнуцца бясконца без матар'яльнае дапамогі з Захаду, а не таму, што паслабляецца воля да супраціву сярод нацыянальных апазыцыяў.

**А. Будзіч**

# 5-ы Гадавы Зьезд БСТА

У днях 3-га й 4-га верасьня сёлета ў горадзе Кліўлэнд адбыўся 5-ы Гадавы Зьезд Беларускага Студэнцкага Таварыства ў З. Ш. А. Вызначаючы месцам Зьезду Кліўлэнд, Б. С. Т. А. зламала гэтым сваю пяцігадовую традыцыю, паводля якой гадавыя зьезды дасюль адбываліся ў Нью Ёрку або ў Нью Брансьвіку. Дзеля таго аднак, што Аддзел Б. С. Т. А. штату Огайо вырас за апошнія два гады і ахапіў сабою роўна палавіну сяброў Таварыства, ды датаго яшчэ Кліўлэнд ляжыць амаль на аднолькавай адлегласьці ад Нью Ёрку, Чыкага ды іншых студэнцкіх асяродкаў, было вельмі пажадана адбыць там чарговы Зьезд.

На Зьезд прыбылі прадстаўнікі студэнтаў зь Нью Ёрку, Нью Брансьвік-у, Чыкага, Дэтройт, Колюмбус, Эн Арбор ды іншых мясцовасьцяў. Прывітаньні для Зьезду прыслалі шматлікія беларускія арганізацыі, а таксама й некаторыя іншанацыянальныя ўстановы.

Важнай часткай Зьезду былі справаздачы Ураду ды Аддзелаў Б. С. Т. А. Тут хацелася-б затрымацца над некатарымі мамэнтамі дзейнасьці Таварыства. Перадусім цікава пазнаёміцца із статыстыкай арганізацыі: на сяньня Таварыства мае 50 сяброў, з якіх 90% ёсьць актыўнымі студэнтамі (тут падразумеваецца таксама ўжо закончыўшых студыі, перарваўшых студыі дзеля службы ў Амэрыканскай Арміі й паступаючых у каледжы ў бягучым акадэміцкім годзе). На сяньняшні дзень адзін сябра Таварыства атрымаў ступен доктара, 2 сяброў працуе на ступень доктара, адзін сябра атрымаў ступень магістра, 2 сябраў працуе на ступень магістра, ступень бакалаўра атрымала 9 сябраў, на апошнім годзе навучаньня ёсьць 6 свброў. Урадам праведзены ўлік матурыстых ды вялася акцыя заахвочваньня іх да паступленьня ў каледжы.

Урад падтрымліваў арганізацыйную сувязь з Ц. Б. А. А., украінскай студэнцкай арганізацыяй С. У. С. Т. А. Сувязі зь іншымі чужынецкімі студэнтамі ды прапагандавая праца вялася больш на ўнівэрсытэцкай базе удзелам у працы інтэрнацыянальных клюбаў ды ў розных зьездах. На асаблівую ўвагу тут заслугоўвае дзейнасьць нашых асяродкаў у Пэорыя, Колюмбус і Нью Брансьвік. Мала было зроблена дзеля ажыўленьня таварыскага жыцьця арганізацыі. Вялікая расьцярушанасьць сяброў Таварыства ёсьць паважнай перашкодай у ладжаньні таварыскіх імпрэзаў.

Бяручы пад увагу цяжкасьці зьвязаныя з выдаваньнем часапісу «Віці», Рэдакцыйнай Калегіяй і Урадам была праробленая вялікая і ахвярная праца; выдадзеныя два нумары часапісу магчыма ня шмат могуць сказаць аб гэтай працы, але сотні гадзінаў праведзеных над часапісам студэнтамі падчас заняткаў больш вобразна прамовяць да тых, хто ведае амэрыканскую ўнівэрсытэцкую сыстэму.

Справаздача зь дзейнасьці Ўраду была закончаная інфармацыямі з галіны дапамаговай і фінансавай.

Жывая й цікавая дыскусія вывязалася над назовам часапісу «Віці» і над спосабамі павышэньня ўзроўню гэтага часапісу. Большасьць удзельнікаў дыскусіі выказалася за тым, што назоў «Віці» ёсьць вельмі ўдалым; ён вяжа нас з нашай багатай мінуўшчынай, а сяньня мае вельмі глыбокае сымбалічнае значэньне.

Уступаючаму Ураду Б. С. Т. А. было вынесена абсалютορыюм з падзякаю. У новы Урад былі выбраныя сп. К. Калоша — старшынёю, сп. В. Русак — заступнікам старшыні, ды сп. сп. І. Каляда, К. Семянчук і Л. Норык. Адначасна-ж былі выбраны сябры Рэдакцыйнай Калегіі ад Б. С. Т. А., другую частку Рэдакцыйнай Калегіі дае З. Б. М. А.

Ізноў цікавая дыскусія была завязалася над пытаньнем зьменаў статуту. Уступаючы Ўрад прапанаваў шэраг зьменаў статуту, якія мелі на мэце далёка ідучую рэарганізацыю Таварыства. Адной з галоўных зьменаў была-б зьмена назову Таварыства на «Беларускае Акадэміцкае Таварыства ў З. Ш. А.» Гэткая зьмена статуту дазволіла-б затрымаць у радох арганізацыі тых асобаў, што закончылі ўжо студыі (а такіх з кажным годам пабольшваецца, ужо ёсьць 15, а цераз год будзе 21), ды забясьпечыць арганізацыі цягласьць існаваньня. Арганізацыя аб'ядноўваючая студыюючую моладзь і абсальвэнтаў амэрыканскіх унівэрсытэтаў стала-б асяродкам беларускай інтэлігенцыі ў З. Ш. А. і мела-б прыгожыя пэрспэктывы разьвіцьця. Нажаль, прапановы Ураду адносна зьмены статуту й рэарганізацыі Таварыства ня былі прыняты гэтым Зьездам; пытаньне гэтае павінна быць абмеркавана на працягу наступнага году ды будзе вырашана на наступным гадавым зьезьдзе.

Зьездам была прынятая прапанова выслаць прывітаньні сп. Прэз. Айзэнгаўэру, Старшыні Рады Б. Н. Р. сп. інж. М. Абрамчыку, і вялікаму прыяцелю беларускіх студэнтаў сп. Праф. Кашмідэру.

Так закончылася дзеявая частка Зьезду Б. С. Т. А.

У нядзелю 4-га верасьня ўсе ўдзельнікі Зьезду прысутнічалі на Божай Службе ў мясцовай царкве. Падчас Службы прыгожа сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. кампазытара М. Куліковіча.

Пасьля гэтага ўсе пашлі на супольны абед, які ў міжчасе быў падрыхтаваны руплівымі кліўлэндзкімі гаспадынямі. На абедзе, акрамя студэнтаў і моладзі, якая ў гэты час таксама зьехалася сюды з усіх канцоў Амэрыкі на спартовыя змаганьні, прысутнічала шмат прадстаўнікоў старэйшага беларускага грамадзтва з Кліўлэнду, Дэтройту, Чыкага ды навет з Канады.

Некалькі гадзінаў вольнага часу ўдзельнікі Зьезду выкарысталі на тое, каб пабачыць футбольны мэч паміж камандамі «Беларус» (Нью Ёрк) і «Пагоня» (Кліўлэнд), які закончыўся лікам 4 : 4.

Вялікай забаваю, якая пачалася а 8-ай гадзіне вечара ды трывала да позьняй ночы, закончыліся кліўлэндзкія ўрачыстасьці. Даход з забавы будзе разьмеркаваны паміж арганізацыямі Б. С. Т. А. і З. Б. М. А.

**Р. В.**

## УВАГА!

Выйшаў з друку й прадаецца ў Рэдакцыі ЗЬНІЧУ (Roma, Traspontina 18) найнавейшы пераклад

### СЬВЯТОЕ ЭВАНЭЛІІ Й АПОСТАЛЬСКІХ ДЗЕЯЎ

Кніга зьмяшчаючая 636 бачын, апрацавана й выдана салідна і прыгожа — як падае рэцэнзія ў № 25 (255) нашай газэты, дзе, як выясьняе дадаткова рэцэнзэнт, крытычная зацемка аб мове перакладчыка мае на ўвеце пэўныя толькі формы, вымагаючыя для некаторых чытачоў большага паясьненьня, а не — якія небудзь недапушчальнасьці.

Цана кнігі:
у брашуровай аправе 3 даляры,
у палатнянай аправе 5 даляраў.

## Да ўвагі нашых падпішчыкаў і даўжнікоў

Асобы, якія атрымоўваюць нашу газэту непасрэдна зь Нямеччыны, грошы за яе павінны перасылаць Прадстаўніком «Бацькаўшчыны» ў краі свайго пражываньня.

**Адміністрацыя «Б-ны»**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia** 25 Belmont P. de Mount Colah, N. S. W.
**Mr. Donat Jackiewich,** 33 Hope St. Spotswood-Melbourne, Vict.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčečka,** 19, Place Hoover, Louvain.

**ДАНІЯ:**
**J. Lobejko,** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv., Kobenhavn S.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 17, Rue Roger Salengro, Lys les Lannoy (Nord).
**Section Bielorussiene de C. F. T. C.** 26, Rue de Montholon, Paris 9.

**ШВЭЦЫЯ:**
**Basil Lukaszyk,** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.